# Голас Радзімы

№ 41 (2183)
11 кастрычніка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Сямейны падрад народжаны перабудовай. Сотні сялянскіх двароў перайшлі на новы від гаспадарання. Вось і сям'я Валерыя КУРТО з калгаса імя Мічурына, што на Віцебшчыне, узяла на адкорм больш як сто бычкоў. Штогод жывёлаводы прадаюць дзяржаве каля 30 тон мяса.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

XVII З'ЕЗД ПРАФСАЮЗАЎ БССР

## НА НОВЫМ ЭТАПЕ

**4 кастрычніка адкрыўся XVII з'езд прафсаюзаў Беларусі. У крайне складанай, супярэчлівай грамадска-палітычнай абстаноўцы працуюць цяпер прафсаюзы рэспублікі. З аднаго боку, расшыраецца галоснасць, расце грамадска-палітычная актыўнасць працоўных, з другога—усё больш адчувальна праяўляецца крызіс у эканоміцы, слабее дысцыпліна, зніжаецца ўзровень жыцця народа. Размываюцца прывычныя духоўныя і маральныя арыенціры, нарастае хваля злачыннасці. Гэтыя праблемы, характэрныя для ўсёй краіны, ускладняюцца ў Беларусі яшчэ і вынікамі чарнобыльскай трагедыі.**

**Пераход да рыначнай эканомікі, дзяржаўны суверэнітэт рэспублікі дыктуюць прафсаюзам неабходнасць у корані мяняць сутнасць сваёй дзейнасці, па-новаму будаваць узаемаадносіны з органамі ўлады, знайсці эфектыўныя шляхі сапраўднай—не на словах, а на справе—абароны правоў і інтарэсаў працоўных.**

**Востры, дыскусійны характар з'езда закладзены ўжо ў яго парадку дня. Дэлегатам трэба будзе стварыць Федэрацыю самастойных, незалежных прафсаюзаў БССР. Гэта не проста новы, а этапны крок у прафсаюзным руху. Прадугледжваецца выпрацаваць новыя прынцыпы аб'яднання прафесіянальных саюзаў рэспублікі і на гэтай аснове кансалідаваць самы масавы грамадскі рух. Цяпер у рэспубліцы каля пяці з палавінай мільёнаў членаў прафесіянальных саюзаў, яны аб'яднаны ў 23 галіновыя прафсаюзы.**

**На прафсаюзны форум прыбыло больш як 600 дэлегатаў. Сярод яго гасцей—прадстаўнікі Расіі і Літвы, а таксама запрошаныя прафсаюзныя дзеячы Польшчы, Італіі, Германіі, Францыі, Ізраіля, Сінгапура, Югаславіі.**

**Справаздачны даклад, з якім выступіў старшыня Белсаўпрофа У. Ганчарык, быў вострым, праблемным. Растлумачваючы пазіцыю прафсаюзаў, дакладчык падкрэсліў, што рынак у канчатковым выніку закліканы служыць на карысць чалавеку, а не на шкоду яму. Гэта асноўнае патрабаванне, якое прафсаюзы прад'яўляюць да ўрада пры распрацоўцы адпавядаючай асаблівасцям рэспублікі праграмы пераходу на рыначныя адносіны.**

**Прафсаюзы не могуць згадзіцца са сцвярджэннем, што асноўнай прычынай разбалансавання рынку з'яўляецца павелічэнне даходаў насельніцтва. З пачатку пяцігодкі яны ўзраслі на 8 працэнтаў замест 11,7, прадугледжаных планам. А ўзровень інфляцыі толькі ў мінулым годзе склаў прыкладна 10 працэнтаў. Стрымліванне дах[illegible] працоўных ніжэй узроўню інфляцыі прывод[illegible] да пагаршэння жыцця людзей.**

**Пазіцыю ўрада рэспублікі выклаў у сваім выступленні Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч.**

ЮБІЛЕІ

## УШАНАВАННЕ ВЯЛІКАГА БЕЛАРУСА

**У ААН адбыўся вечар, прысвечаны 500-годдзю з дня нараджэння Ф. Скарыны. Вечар быў арганізаваны ў рамках візіту ў ЗША Старшыні Савета Міністраў БССР В. Кебіча. У ім прынялі ўдзел супрацоўнікі ААН, прадстаўнікі беларускай эміграцыі.**

**Перад прысутнымі выступілі міністр замежных спраў БССР П. Краўчанка, вучоны і пісьменнік, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, узнагароджаны нядаўна медалём імя Ф. Скарыны, прафесар А. Мальдзіс.**

**Доктар з Канады С. Стэнлі Скарына, нашчадак нашага праслаўленага земляка, падзякаваў ураду і народу Беларусі за арганізацыю ўрачыстасцей у гонар 500-годдзя Ф. Скарыны не толькі на беларускай зямлі, але і ў Нью-Йорку.**

**У дар секцыі беларускай кнігі ААН, што нядаўна адкрылася, была перададзена падборка літаратуры пра Ф. Скарыну.**

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СІМВОЛІКА

## «ПАГОНЯ» ЎЗАКОНЕНА

**Прэзідыум Мінскага гарсавета прыняў рашэнне «Аб беларускай нацыянальнай сімволіцы і яе выкарыстанні ў Мінску». Савецкія, дзяржаўныя і грамадскія органы, а таксама прадпрыемствы, арганізацыі і жыхары сталіцы рэспублікі цяпер маюць права адначасова з дзяржаўнай сімволікай БССР выкарыстаць на тэрыторыі Мінска і беларускую гістарычную сімволіку (бела-чырвона-белы флаг і герб «Пагоня»).**

**Сваё рашэнне гарсавет прыняў зыходзячы з Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. На пасяджэнні прэзідыума была ўнесена прапанова ўстанавіць над гарсаветам нацыянальны флаг рэспублікі, аднак для прыняцця рашэння не хапіла аднаго голасу.**

МІЖНАРОДНЫ СЕМІНАР

## ГАВОРАЦЬ СПЕЦЫЯЛІСТЫ

**У Мінску прайшоў семінар Еўрапейскага інстытута пячатных плат (ЕІПП). Гэта аўтарытэтная няўрадавая і некамерцыйная міжнародная арганізацыя, якая паявілася ў 1968 годзе, аб'ядноўвае каля паўтары сотні распрацоўшчыкаў і вытворцаў пячатных плат—важнейшых кампанентаў камп'ютэраў і іншай электроннай тэхнікі. З дакладамі на семінары выступілі прадстаўнікі вядучых фірм Італіі, ФРГ, ЗША, Швейцарыі і Вялікабрытаніі. Аб развіцці галіны ў нашай краіне расказалі спецыялісты пяці буйнейшых савецкіх арганізацый, у тым ліку Беларускага НВА вылічальнай тэхнікі—першага савецкага члена ЕІПП.**

**Пасля заканчэння семінара ў павільёне «Мінскэкспа» Гандлёвапрамысловай палаты БССР адкрылася міжнародная выстаўка «Пячатныя платы-90».**

ПРАПАНОВА ЮГАСЛАВІІ

## САНАТОРЫЙ ДЛЯ АХВЯ[illegible] ЧАРНОБЫЛЯ

**Намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі, старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па праблемах ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС Іван Кенік прыняў дэлегацыю з Ю[illegible]віі.**

**Ад імя ўрада Славеніі члены дэлегацыі прапанавалі свае паслугі па будаўніцтву санаторыя для людзей, якія пацярпелі ў выніку трагедыі. Мяркуецца, што гэту работу выканае югаслаўская фірма «Смелт», якая з'яўляецца вядучай фірмай Югаславіі па будаўніцтву медыцынскіх аб'ектаў. Члены дэлегацыі перадалі праектныя прапановы і тэхніка-эканамічныя разлікі па будаўніцтву санаторыя.**

**Раней такая прапанова паступіла ад аўстрыйскай фірмы «Фест-Альпіне».**

ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ

## МІСІЯ «ПРАМЕНЬ НАДЗЕІ»

**У Беларускім навукова-даследчым інстытуце анкалогіі і медыцынскай радыялогіі ў Бараўлянах вырашылі правесці сваю першую дабрачынную акцыю прадстаўнікі Беларускага аддзялення Хрысціянска-дэмакратычнага саюза Расіі і Беларускай хрысціянскай місіі «Прамень надзеі». Яны прывезлі ў клініку дзесяць тысяч аднаразовых шпрыцаў і лякарстваў для эфектыўнага лячэння анкалагічных захворванняў. Усё гэта місіянерам удалося купіць за рублі ў ФРГ пры пасрэдніцтве мясцовай хрысціянскай арганізацыі.**

**У бліжэйшых планах Беларускага аддзялення ХДС Расіі—стварэнне ў Мінску хрысціянскага культурнага цэнтра, куды змогуць прыходзіць усе жадаючыя. Да паслуг наведвальнікаў будуць абсталяваны відэазала, дыскатэка, бар, мяркуецца таксама адкрыць бясплатныя юрыдычную і псіхалагічную службы.**

ПАМЯЦЬ

## ЗБЕРАГЧЫ ПОМНІК

**У Вільнюсе прынята рашэнне дэманціраваць помнік выдатнаму палкаводцу Вялікай Айчыннай вайны Івану Чарняхоўскаму. Гэты факт каменціруе старшыня праўлення Беларускага фонду культуры, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, пісьменнік І. Чыгрынаў:**

**— Вандалізм у адносінах да помнікаў гісторыі культуры нікому не робіць гонару,—гаворыць Іван Гаўрылавіч.—На жаль, сёння некаторыя разважаюць так: што не наша, то чужое. Не думаю, каб такая пазіцыя была маральнай і дальнабачнай. Ва ўсякім разе, абавязак беларусаў—захаваць гэты помнік. І. Чарняхоўскі камандаваў 3-м Беларускім фронтам, які змагаўся на нашай зямлі. І калі ў Літве не хочуць памятаць яе вызваліцеля, то Беларусь ніколі не забудзе подзвігі і заслугі палкаводца.**

**Далейшы лёс помніка і выбар месца перапахавання героя ў многім будуць залежаць ад волі яго родных. У сваю чаргу, Міністэрства культуры БССР і Беларускі фонд культуры звярнуліся ў гарадскі Савет народных дэпутатаў Вільнюса з прапановай перадаць помнік нашай рэспубліцы, каб устанавіць яго ў дастойным месцы.**

ЛІСІЧКІ НА ЭКСПАРТ

## ДАЛІКАТЭС ДЛЯ ІНШАЗЕМЦАЎ

**Традыцыйную нямецкую страву—лісічкі—гамбургская фірма «Кеслер» заказала ў Глускім раёне Беларусі. Па дагавору, які дзейнічае ўжо другі год, днямі мясцовыя грыбавары спецыяльным рэфрыжэратарам адправілі першую партыю салёна-адварных далікатэсаў—адзінаццаць з палавінай тон. Рыхтуецца на экспарт яшчэ васемнаццаць тон грыбоў.**

**Глускі раён—адзін з самых грыбных у Беларусі. На шчасце, ён не пацярпеў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і дары лесу тут чыстыя. Зборам іх насельніцтва займаецца спакон веку. У вёсках, паблізу ад лясных дзялянак, створана шэсць пастаянных грыбаварных пунктаў, дзе працуюць вопытныя майстры.**

**У гэтым годзе пасля шчодрых дажджоў ураджай лісічак тут небывалы—ужо сабрана звыш сямідзесяці тон. Акрамя таго, з раёна адпраўлена для фармацэўтычнай прамысловасці СССР тона веснавых грыбоў—смаржкоў і страчкоў. Цяпер пайшлі белыя. Нарыхтавана першая тона сушаных баравікоў. Зделка з заходнегерманскай фірмай выгадная для нарыхтоўшчыкаў грыбоў. На выручаныя сродкі будуць пастаўлены дэфіцытныя імпартныя тавары.**

АНАМАЛІІ

## ЗАЦВІЛІ ЯБЛЫНІ

**Нечаканы сюрпрыз паднесла яблыня, што расце на прысядзібным участку Васіля Цяцерыча ў Калінкавічах. На яе галінках з'явіліся буйныя белыя кветкі. Разам з пажоўклым дзе-нідзе лісцем, сакавітымі спелымі пладамі па-веснавому белы ўбор дрэва выклікае здзіўленне. Не верыцца, што на двары восень: яблыня цвіце нібы ў маі. Зацвілі яблыні і на ўчастку Міхаіла Касцюка. Такой з'явы не памятаюць на сваім вяку пенсіянеры.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● «Барацьба за свабоду: ЗША ў другой сусветнай вайне»—так называецца кніжная выстаўка, якая адкрылася ў Брэсце. Звыш 650 выданняў амерыканскіх пісьменнікаў і гісторыкаў, дзесяткі унікальных фотадакументаў мінулай вайны ўбачаць жыхары горада над Бугам і іх госці.

● Невялікая вёска Брузгі дала назву новаму таможнаму кантрольна-прапускному пункту на савецка-польскай дзяржаўнай граніцы. Ён адкрыўся непадалёку ад Гродна. Цяпер уладальнікам асабістага транспарту і маршрутных таксі з абодвух бакоў не прыйдзецца рабіць немалы круг праз літоўскі горад Лаздзіяй ці Брэст. Гэта значыць, што шлях у сумежную краіну скароціцца ўдвая.

● Фестываль «300 гадоў кларнету» адбыўся ў Вялікай зале Мінскай філармоніі. У беларускую сталіцу з'ехаліся музыканты з Вільнюса, Рыгі, Ленінграда, Таліна. Парадаваў слухачоў сваёй ігрой кларнетыст з Прагі Мілан Этлік.

ЖЫЦЦЁВЫЯ ПРАБЛЕМЫ





**Магчыма ёсць яшчэ дзе-небудзь цыганы, якія вядуць качавы лад жыцця, але толькі не ў Беларусі. Нават заезджую кібітку сёння тут не ўбачыш. Пакінуўшы сваё бадзянне, перасяліліся цыганы ў гарады і вёскі, атрымалі і пастаянную працу, і добраўпарадкаваныя дамы і кватэры. Шкада толькі, што не ўсім пашчасціла.**

**Вось узяць сям'ю Бярлянды Станкевіч. Прытулілася яна сёлета з дзесяццю дзецьмі ў старой хаціне на ўскраіне Баранавічаў. А тут ніякіх умоў для жыцця: вецер у дзірках свішча, дождж засякае. Збіраецца Бярлянда пайсці ў выканком гарадскога Савета за дапамогай, бо больш не хоча і начаваць на вакзалах, і жабраваць.**

**НА ЗДЫМКАХ: так і жыве пакуль цыганка Б. Станкевіч з дзецьмі ў старэнькай хатцы.**

## *ДА 500-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ*

# ТРЫ БІБЛЕЙСКІЯ ВОБРАЗЫ

У кiёце размяшчаліся святыя сімвалы, сярод якіх — каменныя дошкі-скрыжалі з дзесяццю боскімі маральна-прававымі запаведзямі. Захапіўшы каля 1000 года да н. э. горад Іерусалім, цар Давід вырашыў зрабіць яго сваёй сталіцай і найперш загадаў перанесці сюды кiёт Божы. 30 тысяч выбраннікаў суправаджалі калясніцу са святым сімвалам, «а Давід і ўсе сыны Ізраілевы гралі перад Господам на ўсіх музыкальных прыладах з кіпарысавага дрэва: і на цытрах, і на псалтырах, на тымпанах, і на сістрах, і на кімвалах».

Аднак па дарозе здарылася бяда — памёр адзін з тых, хто вёз калясніцу. Цар вырашыў спыніцца, і толькі праз тры месяцы кiёт панеслі на руках. І калі тыя, хто нёс яго, праходзілі шэсць крокаў, цар прыносіў ахвяры, а сам, апрануты ў простую вопратку, «скакаў са ўсёй сілы» пад трубныя гукі і воклічы народа. Калі працэсія праходзіла каля царскага палаца, то царыца Мелхола, дачка папярэдняга цара Саула, «унізіла яго ў сэрцы сваім», сказаўшы: «Як вызначыўся сёння цар Ізраілеў, паводзячы сябе на вачах рабынь і рабоў сваіх, як паводзіць сябе які-небудзь пусты чалавек!» На гэта Давід адказаў: «Перад Гасподам граць і скакаць буду, і яшчэ больш уніжуся ў вачах сваіх, і перад служанкамі, пра якіх ты кажаш, праслаўлюся».

Гэты эпізод яскрава выявіў патрыярхальны перыяд дзяржаўнасці, калі яшчэ не ўстанавіўся ўрачысты этыкет прыдворных паводзін: цар Давід, яшчэ нядаўна пастух, радуецца шчыра і па-прасцецку. Ёсць тут і заглыблены, сімвалічны сэнс. У тэалагічным плане вобраз цара Давіда, паводле хрысціянскай тэалогіі, сімвалізаваў будучага нябеснага цара Ісуса Хрыста з яго парадаксальным вучэннем пра духоўнае ўзвышэнне на шляхах зямнога самапрыніжэння.

Разам з тым гэты літаратурны сюжэт і адпаведная яму графічная кампазіцыя ў Скарынавым выданні з амбівалентным вобразам цара-скамароха сведчыць пра наяўнасць у Бібліі фальклорна-карнавальных матываў. Яны тут не заўсёды адкрытыя, нярэдка прысутнічаюць, як кажуць філосафы, імпліцытна (у няяўнай, скрытай форме), тэалагічна пераасэнсаваныя як боскія цуды. Асабліва шмат іх у ваеннай аповесці пад назвай «Кніга Ісуса Навіна». Першы цуд (ён адлюстраваны ў гравюры да Скарынавага выдання гэтай кнігі) адбыўся пры пераходзе праз раку Іардан: «І вось, калі народ рушыў ад сваіх шатроў, каб перайсці Іардан, і святары панеслі каўчэг запавету (Гаспода) перад народам, то як толькі тыя, хто нёс каўчэг, увайшлі ў Іардан, і ногі святароў, што неслі каўчэг, апусціліся ў воды Іардана, — Іардан жа выступае з берагоў ва ўсе дні жніва пшаніцы, — вада... спынілася і стала сцяною на даволі вялікай адлегласці». Тут — адна з нярэдкіх у Бібліі сіметрычных падзей-сюжэтаў. Аналагічны цуд адбыўся раней, калі Майсей адступаў з Егіпта і падышоў да Чырвонага мора: «І накіраваў Майсей руку сваю ў бок мора, і гнаў Гаспод мора моцным усходнім ветрам цэлую ноч, і зрабіў мора сушаю, і расступіліся воды. І пайшлі сыны Ізраілевы сярод мора па сушы: воды ж былі сцяною па правы і левы бок». (Выхад 14, 21-22).

Матыў цуду з [illegible]най перашкодай (ракой, [illegible]ерам, морам), якая расступ[illegible]ецца перад героем, вельмі папулярны ў еўрапейскім фальклоры, асабліва ў беларускіх чарадзейных казках. Альбо яшчэ вядомы сюжэт, які пакінуў памятку пра сябе ў крылатай фразе «Ерыхонскія трубы». Пры нас[illegible]енні на горад Ерыхон сцен[illegible] гэтай крэпасці абваліліся ад крыкаў воінаў і трубных гукаў. Пазней той жа Ісус Навін «прыказаў» сонцу спыніць свой рух, каб яго воіны паспелі адпомсціць ворагам.

Гратэскава-карнавальны вобраз у сваім «чыстым» выглядзе ёсць у біблейскай легендзе пра волата Самсона, які перабіў тысячу сваіх ворагаў... аслінай сківіцай. Асёл у народнай казачна-камічнай канцэпцыі жыцця — гэта, гаворачы тэрмінамі Міхаіла Бахціна, сімвал «матэрыяльна-цялеснага нізу». І ў даным эпізодзе аслiная сківіца — карнавальная, «смехавая» зброя, і служыць яна герою для таго, каб прынізіць ганарыстых ворагаў.

## БОСКАЯ І ЛЮДСКАЯ МУДРАСЦЬ

У філасофіі Ф. Скарына схіляўся да «тэорыі дваістай ісціны» — авераіскай (ад імя арабскага філосафа і ўрача XII стагоддзя Авероэса, або Ібн Рушды) версіі вучэння антычнага вучонага-энцыклапедыста Арыстоцеля (384—322 гады да н.э.), паводле якой навука і рэлігія рознымі шляхамі вядуць чалавека да праўды. Гэтыя пуціны часта не супадаюць і нават не заўсёды перакрыжоўваюцца паміж сабой, бо неістотнае, з пункту погляду рэлігіі, можа быць важным у полі зроку навукі. Альбо наадварот: незразумелае і нелагічнае паводле навуковага метаду мае найвялікшы сэнс у святле боскага адкрыцця і рэлігійнага вопыту. Для сучаснага адукаванага верніка такое бачанне «зямной» і «нябеснай» праўды зусім зразумелае і не выклікае асаблівых сумненняў. Але ў сярэдневяковую эпоху, ды й пазней, падчас Рэнесансу, такая філасофія разглядалася артадаксальнымі схаластамі як вальнадумства, якое мяжуе з атэізмам.

Паводле сведчанняў гісторыкаў філасофіі (Генадзь Грушавы і інш.), ёсць важкія аргументы на карысць таго, што беларускі асветнік развіваў традыцыі рэнесансных вучоных і пісьменнікаў-гуманістаў, заснавальнікаў еўрапейскай плыні вальнадумнага авераізму ў Падуанскім універсітэце Піка дэла Мірандолы (1463—1494) і П. Пампанацы (1462—1525). Аднак заўважым: без іх радыкальных высноў, якія вялі ў рэшце рэшт да «секулярызацыі» свецкай культуры, да яе «разводу» з рэлігіяй. Ф. Скарына ўсё ж уяўляў хрысціянскую веру і навуковыя веды цэласна, бачыў у іх два бакі сусветнай ісціны і праўды чалавечага быцця.

Вядома, што Падуанскі універсітэт, дзе беларускі асветнік набыў навуковую ступень доктара «ў лекарскіх навуках», быў адным з цэнтраў авераізму, а гэта дае падставу сказаць, што Ф. Скарына добра ведаў медыцынскія і філасофскія творы Авероэса, яго тагачасных паслядоўнікаў, прафесараў гэтага універсітэта. Зрэшты, ён сам неаднойчы выказваўся на тэму суадносін боскай і людской праўды. У прадмове да самай «філасофскай» з усіх біблейскіх кніг, напісанай Ісусам Сірахавым, адзначыў: стваральнікі Септуагінты (старажытнагрэчаскага зводу Бібліі) ведалі не толькі тэхналогію, не толькі былі «ўмелымі» ў яўрэйскай і грэчаскай мовах, а яшчэ напоўніліся «Духам Святым і філасофіяй». Не выпадкова вучонаму палачаніну прыйшлася даспадобы кніга Ісуса Сірахава: на яго думку, у гэтым творы сціпла выяўлена «вся бо Саломонова и Аристотелева, божественная и житейская мудрость». Канкрэтныя веды і Святы Дух, «боская і жыцейская» мудрасць — гэта ўсё тая ж тэорыя «дваістай ісціны».

Боская ісціна выходзіць за рамкі зямнога розуму з яго законамі логікі і таму, на думку Скарыны, цяжкая для разумення. Тут патрэбны духоўны вопыт, таму, як меркаваў асветнік, старажытныя настаўнікі не дазвалялі чытаць «цяжкія» біблейскія кнігі (Быццё, Езекііля прарока, Песня песняў і інш.) маладым людзям да трыццаці гадоў. Бо нават не ўсе філосафы маглі зразумець, якім чынам Бог стварыў сусвет з нічога насуп[illegible] «старейшине их Аристот[illegible] глаголюшу: З ни с чего ничто не бысть». Гэтая супярэчнасць, на думку Скарыны, вырашаецца спалучэннем розуму і веры, размежаваннем зямнога і нябеснага, цялеснага і духоўнага, рэальнага і сімвалічнага. У пра[illegible]е да паслання апостала Паў[illegible]а рымлян пісьменнік даказваў гэтую неадназначнасць зямнога і нябеснага аспектаў ісціны па правілах рыторыкі. Ёсць двайны сэнс рабства і свабоды: альбо мы вызваляемся ад грахоў і працуем для праўды, альбо «свабодныя» ад праўды і ў рабстве грахоў. Ёсць і дваякі закон: адзін для цялеснага жыцця, адругі — для духоўнага. Адным хрышчэннем мы адмываем грахі, а другім прымаем дары Хрыстовыя. Таксама двойчы паміраем: першы раз развітваючыся з блізкімі, а другі раз, наследуючы вечнае царства Хрыстова. Двойчы ўваскрасаем — духоўна, паднімаючыся ад зла на вышыню дабра, і душэўна, уваскрасаючы з праведнікамі ў царстве Хрыстовым. І ўрэшце: «Двоякая правда: божия и человечия. Двоякий суд: божий и человечий. Двоякая похвала: от Бога и от человек».

На першы погляд, у Скарыны як быццам бы два паралельныя сусветы, якія нідзе не сустракаюцца. Аднак гэта не так. У яго прадмове да біблейскай кнігі «Другі закон» чытаем: «Людьское естество двояким законом бываеть справовано от Господа Бога, то есть прироженым а написаным. Закон прироженый в том наболей соблюдаем бывает: то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хатеши от иных имети. А на том, яко на уднении, вси законы писаныи заложены суть». Пра што тут кажа свайму «народу простаму, паспалітаму» асветнік? Маральны закон, названы пазней Кантам «катэгарычным імператывам», ёсць у аднолькавай ступені «удиением», гэта значыць, асновай альбо падмуркам усіх іншых «пісаных» законаў — боскіх і чалавечых.

Працягваючы далей гэтае разважанне, прыходзім да высновы: мараль ёсць тое звяно, што лучыць неба з зямлёю, Бога з чалавекам, боскую ісціну і людскую праўду, веру і навуку. У Ф. Скарыны гэта была здагадка, інтуіцыя. Тэорыяй яна стала ў філасофіі Канта, паводле якога «практычны розум» маралі пастуліруе неабходнасць Бога і бессмяротнасці душы, у той час як «чысты розум» навукі грунтуецца выключна на вопыце і законах логікі. Такое абмежаванне сферы рэлігіі анталагічнымі (быційнымі) асновамі маралі магло адбыцца толькі ў фінале XVIII асветніцкага стагоддзя. Ва ўсходнеславянскіх рэнесансных асветнікаў, да якіх належаў выдавец і каментатар першай беларускай Бібліі, думка пра аўтаномнасць навукі і рэлігіі, іх узаеманезалежнасць і «суверэнітэт», яшчэ толькі зараджалася і выявілася ў форме інтуіцыі «дваістай ісціны». Наогул жа ідэалам рэнесансных дзеячаў культуры, людзей разнастайных ведаў, майстроў у розных відах творчасці, была цэласнасць быцця (прыроднага, грамадскага і асабістага) і адзінства пазнання, пошук агульных асноў да навукі, мастацтва і веры.

**Уладзімір КОНАН.**

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 39, 40.**

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

# SALUD, «АЎРОРА»!

Драгічына, бацькі мужа — з Жабінкі, а сам ён нарадзіўся ў Аргенціне, дзе ў вялікае перасяленне народаў напярэдадні крывавай другой сусветнай знайшлі прыстанішча абедзьве сям'і.

Дык вось, цудоўна, што тады, знаходзячыся ў Мар дэль Плата, я памыляўся...

— Будынак клуба ўжо гатовы, хоць работа яшчэ не завершана і будзе працягвацца. Вядома, вы маеце рацыю, яна нямала каштуе: ужо выдаткавана больш за 20 тысяч долараў. Збіралі сярод сваіх людзей, даваў хто колькі мог. Членаў клуба, тых, хто плаціць узносы, набралася семдзесят чалавек. Але ж наведвальнікаў заўжды аказваецца ў многа разоў болей.

Маем невялікі пакуль што хор, гурток па вывучэнню рускай мовы, які складаюць 20 чалавек. На сваёй мове, акрамя нашых бацькоў, многіх з якіх ужо няма на свеце, мала хто размаўляе. Але разумеем усе і ўсё. Канешне, больш гаворым па-іспанску, часамі па-руску, — нібы ў апраўданне гаварыла Марыя Калішук. Ды якое там апраўданне, калі нават мы на бацькоўскай зямлі і нават у гэты спрыяльны для адраджэння час цураемся і грэбуем родным словам. Дык што казаць пра тых, хто жыве на чужыне столькі гадоў! Што казаць пра іх маладое пакаленне... На яго конт я знайшоў у словах Марыі Сцяпанаўны даволі нечаканы пункт гледжання:

— Прыходзіць у клуб і моладзь, але ж нашых дзяцей у сэнсе захавання беларускай культурнай спадчыны мы лічым «страчаным» пакаленнем. А ўжо ўнукаў — «набытым», яны — наша вялікая надзея.

— Наколькі мне вядома, у вашым горадзе ніколі не было арганізаванага зямляцтва са статусам юрыдычнай асобы. Што ж цяпер змусіла, падштурхнула вас траціцца, ствараць таварыства ў глыбінцы, за пяцьсот кіламетраў ад сталіцы і за семнаццаць тысяч ад Радзімы?

Галоўнай прычынай госці назвалі перабудову грамадскага жыцця ў СССР. Ужо адно тое, што савецкія грамадзяне, якіх многа і ў Аргенціне, цяпер атрымалі магчымасць без усялякай візы выязджаць у Савецкі Саюз, свабодна перамяшчацца па яго тэрыторыі, — вялікі здабытак. Людзі ладзяць старыя, набываюць новыя кантакты. Дэмакратызацыя, перамены на Радзіме, яе ўзрастаючы аўтарытэт яднаюць суайчыннікаў за мяжою, клічуць да сацыяльнай актыўнасці.

Сказаць, што мы гаварылі выключна аб высокім, узвышаным, патрыятычным, не магу. Бо мала якая размова з зарубежнымі гасцямі абыходзіцца без таго, каб «абедзьве стараны» не спрабавалі ўзважваць на вагах бытавой свядомасці трывіяльна зямное «ў вас» і «ў нас». Раней савецкіх людзей дзівіла, што ў наведвальнікаў з капіталістычнага Захаду з языка не сходзяць скаргі на падаткі, крызісы, вар'яцтва цэн. Сённяшнім часам ужо не дзівіць... Сёння хто каго тут пераговорыць — пытанне дыскусійнае. Тым болей, што мае суразмоўнікі — і навочныя сведкі падзей, з'яў і крытычнага эканамічнага становішча Айчыны. Яны наведалі сваякоў на Брэстчыне, у Мінску, Маскве, Ленінградзе, збіраюцца ў Польшчу. Але высветлілася, што іх меркаванні з нашым пагалоўным скепсісам і адчаем не зусім супадаюць:

— Так, у вас — вялікія цяжкасці, — разважала гаспадыня сям'і Калішукоў. — Аднак нам іх няпроста зразумець. Усе крытыкуюць пустыя магазіны, дарагоўлю, а варта адчыніць халадзільнік — забіты прадуктамі. Дэфіцыт тавараў, талоны, а людзі кругом ходзяць лепш адзетыя, чым у нас. Цяжка зразумець і людскую псіхалогію: жывуць пенсіянеры, у хаце ўсё зіхаціць, дываны, люстры. Пасядзі, адпачні... Не, мала. З апошніх сіл ідзе зарабляць...

— Часцяком мы чуем вашы спрэчкі аб прыватызацыі, замежных крэдытах. У нас ёсць такі вопыт, падобныя працэсы ідуць ужо ў Аргенціне. Напрыклад, дэнацыяналізацыя... І што? Уласнікамі найперш становяцца замежныя ці змешаныя фірмы. Капітал, прыбытак ідзе ў іншаземныя рукі. А знешняя запазычанасць расце. І хто, замежны прадпрымальнік возьмецца выплачваць працэнты? Свой патрон? Не, радавы працоўны чалавек са свайго мазаля, вось хто, — абагуліў тэму гаспадар.

А яшчэ сужонства Калішукоў папрасіла дапамагчы клубу «Аўрора» абсталяваць інтэр'ер рэчамі з беларускай тэматыкай: карцінамі, эстампамі, сувенірамі, нацыянальнымі строямі. І таварыства «Радзіма» аказвае гэткую дапамогу. Хоць яму, грамадскай арганізацыі, з пераходам да варункаў рынку і самафінансавання рабіць гэта будзе ўсё больш складана. На добры лад, дык патрэбны дбайны агульнадзяржаўны падыход да культурных, гуманітарных, эканамічных сувязей з замежнымі суайчыннікамі, які практыкуюць многія іншыя краіны і Захаду, і Усходу.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

## ОППОЗИЦИОННЫЕ ПАРТИИ

# АНАРХИСТЫ В СССР

Феномен возрождения анархизма в нашей стране органически связан с противоречивой экономической и социально-политической ситуацией в стране. В первую очередь речь идет о разбалансированности экономического механизма, кризисе центральной и местной власти, идеологической пестроте различных общественных сил, возникшей с крушением «незыблемых» истин.

Анархизм имеет глубокие исторические корни в России. Его истоки относятся к первой половине XIX века. Среди «апостолов» учения двое знаменитых русских—Михаил Бакунин (1814—1876) и князь Петр Кропоткин (1842—1921). Главную цель анархизма они видели в том, чтобы освободить человека от насилия, давления какой бы то ни было власти: идеологической, политической, экономической.

Нынешний «ренессанс» анархизма в стране можно отнести к 1987 году. Тогда в Москве группой молодежи был создан историко-политический клуб «Община», а чуть позже на его базе начал издаваться одноименный журнал—одно из первых независимых изданий эпохи перестройки. Официально же Конфедерация анархо-синдикалистов (КАС) была основана 1 мая прошлого года.

Каковы же сегодня идейно-политические установки КАС? Анархия, считают ее сторонники,—это не хаос, а гармоничное общество свободных личностей, которое отвергает административно-командный нажим и диктат центра, противопоставляя ему идеи децентрализации и федерализма, при которых вся власть сосредоточена на нижних социальных этажах. Программа неоанархистов включает передачу средств производства в собственность трудовых коллективов, образование независимых профсоюзов и создание такой федерации Советов народных депутатов, которая исключала бы возможность захвата власти той или иной партией или даже коалицией партий.

Конфедерация анархо-синдикалистов считает, что решение жизненно важных проблем общества возможно лишь на пути демилитаризации, перехода от технократического к экологическому сознанию, образования свободных федераций трудовых коллективов и областей. Уже сейчас необходимо ликвидировать министерства, заменив их хозрасчетными банками информации.

Конфедерация не признает партийной дисциплины, не имеет руководящих центральных органов и является открытой в информационном отношении организацией, объединяющей единомышленников. На сегодняшний день в нее входят группы и организации в 32 городах страны, которые действуют самостоятельно и автономно.

В марте этого года состоялся второй, чрезвычайный съезд КАС, в котором приняли участие две другие крупные анархистские организации: Анархо-синдикалисты свободной ассоциации (АССА) и Анархо-коммунистический революционный союз (АКРС). АССА действует в Ленинграде, Саратове, Казани и издает свою газету «Новый свет». Ее знамя—традиционный черепа на черном фоне. На этом съезде Анархо-синдикалисты свободной ассоциации, придерживающиеся либеральных взглядов, выступили против включения в программу КАС слова «социализм», за признание права на частную собственность и за существование политических партий, что не соответствует курсу КАС. Лидер АССА Петр Рауш внес также предложение о трансформации Конфедерации анархо-синдикалистов в Конфедерацию анархических союзов. Однако эти идеи поддержки не получили, что привело к выходу АССА из Конфедерации.

Что же касается АКРС, то он остается коллективным членом КАС. Союз признает лишь крайне ограниченную частную собственность, выступает за создание свободных профсоюзов, которые должны заменить Советы народных депутатов.

В отличие от своих идейных предшественников, неоанархисты не призывают к революционному разрушению. «В своей деятельности,— отмечал представитель московской организации КАС П. Рябов,—мы категорически отвергаем насильственные методы, внимательно изучаем тактику гандизма (акции гражданского неповиновения, ненасильственной борьбы). Выступая приверженцами безгосударственного социализма, мы полностью поддерживаем слова Михаила Бакунина: «Свобода без социализма—это привилегия и несправедливость! Социализм без свободы—это рабство и скотство!»

Конечно, говорить сегодня о сколько-нибудь значительном влиянии анархистов на обществе[illegible] сознание советского общества было бы [illegible]кой. Это, в частности, показали выборы в [illegible]оссовет, на которых лидер КАС Андрей Исаев потерпел поражение. Да и в дальнейшем, думается, им уготована, скорее, роль статистов на политической арене—в силу архаичности идеологического багажа и отсутствия единства. Тем не менее демократическое общест[illegible]бязано принимать и изучать любые констр[illegible]ные идеи, генерируемые общественными движениями и оппозиционными партиями. И не так важно, какому богу молятся их авторы.

**Виктор БАШКИН.**



...А где-то около тихой реки домик отцовский стоит.

Фото В. ЧУМАКОВА.

## ПРОШЛОЕ И НАСТОЯЩЕЕ

# СТРАНА, КОТОРОЙ НЕТ НА КАРТЕ

Инкеринмаа — называлась эта земля в древности («инкере» — самоназвание ижорской народности, издавна обитавшей на берегах Невы). Финские племена живут здесь более двух тысячелетий. В раннем средневековье это были корела, водь, ижора... Все они мирно уживались со славянами в многонациональной Новгородской феодальной республике и внесли свой вклад в историю и культуру [illegible]вней Руси.

В 1617 [illegible] России пришлось подписать тяжелейший Столбовский мир со шведами, по которому к ним отходили юг Карельского перешейка, южные берега Ладожского озера, реки Невы и Фин[illegible]о залива. Швеция обр[illegible]ла здесь провинцию Ингерманланд и стала насаждать лютеранство. Кроме того, она всячески поощряла переселение сюда крестьян из Финляндии.

Когда Петром I была начата Северная война за возврат российского побережья Балтики, финны-лютеране составляли здесь уже три четверти населения. Как считает доцент Ленинградского университета, историк В. Кокко, именно здесь, в Ингерманландии, на основе оригинального этнического субстрата родился народ — ингерманландские финны. В середине XIX века, когда распространились народные школы и оформилась церковь, завершилась их национальная консолидация. Сам Кокко по происхождению финн-ингерманландец, является секретарем созданного в прошлом году добровольного общества «Инкерин лиитто» («Ингерманландский союз»).

— После установления Советской власти, — рассказывает В. Кокко, — начался бурный расцвет национальной культуры и самобытности моего народа. К середине 30-х годов действовали 253 национальные школы, два педучилища и сельскохозяйственный техникум, где преподавание также велось на финском языке. В Ленинградском университете, педагогическом институте, Коммунистическом университете национальных меньшинств Запада существовали финские отделения. В Ленинграде было национальное издательство, выходило 10 периодических изданий на моем родном языке. В городе и области работали национальные клубы. Был даже национальный район — Куйвазовский (ныне Токсовский).

Сталинские репрессии, преследования целых народов, направленные на подавление национальной самобытности, не обошли финнов-ингерманландцев. Народ пережил три депортации. В период коллективизации, когда трудолюбивые и зажиточные финские крестьяне были объявлены кулаками и ссылались на Соловки, в Хибины и на строительство Беломоро-Балтийского канала, когда начались гонения на церковь и финскую культуру. Затем в 1937—1938 годах, когда были насильно выселены все жители из приграничных с Финляндией областей (а процентов на восемьдесят это были финны) и была уничтожена практически вся финская интеллигенция. Третья волна депортаций и репрессий длилась более 10 лет. Весной 1942 года всех финнов вывезли из кольца ленинградской блокады в Сибирь, а в 1943 году финляндские и германские власти с оккупированной последними территории вывезли также всех (63 тысячи) в Финляндию. По условиям перемирия с Финляндией в 1944 году финны возвращались в СССР, но под Ленинград им вернуться не разрешили.

— Мой народ и его культура, — продолжает В. Кокко, — рассеялись на огромном пространстве от Колымы до Финляндии. На сегодня наше положение в Ленинградской области тревожное, и если сейчас не принять кардинальных мер, то через 30-40 лет культура ингерманландцев будет утрачена безвозвратно. Цель нашего добровольного общества «Инкерин лиитто» — возрождение национальной самобытности ингерманландских финнов. Кое-что уже сделано и делается. В восьми школах Всеволожского и Гатчинского районов области введено факультативное преподавание финского языка. В обществе действуют кружки по изучению языка для взрослых. Мы стараемся записать и сберечь весь фольклор, который сохранила народная память. Установили связи с ингерманландскими организациями в Эстонии, Карелии, Швеции и Финляндии и, конечно, будем, насколько это возможно, всячески помогать ингерманландцам, живущим в Сибири, Центральной России и Карелии, если они захотят вернуться на родину своих предков.

**Ирина ГОЛОВКИНА.**

## ЗНАМЕНАТЕЛЬНЫЕ ДАТЫ

# КАКИМ БУДЕТ КУЛЬТУРНЫЙ ЦЕНТР УЛУГБЕКА?

Ответ на этот вопрос должен дать международный конкурс архитекторов, итоги которого планируется подвести осенью 1991 года. Победителей конкурса ждет награда — 100 тысяч долларов из международного фонда Ага-Хана. Этот фонд со штаб-квартирой в Женеве и отделениями во многих странах поддержал идею городских властей Самарканда, Союза архитекторов СССР и Узбекистана создать в этом древнем городе культурный центр к 600-летию Улугбека.

Юбилей Мухамада Тарагая Улугбека, великого ученого-астронома Востока, будет отмечаться по решению ЮНЕСКО в 1994 году. Внук знаменитого завоевателя Тимура (Тамерлана), Улугбек правил Самаркандом в 1409-1449 годах. При нем достигли расцвета наука, культура и искусство. Улугбек построил обсерваторию, которая была снабжена лучшими для того времени инструментами.

Сохранившиеся до наших дней остатки обсерватории дали возможность установить, что это было огромное трехэтажное здание цилиндрической формы, середину которого занимал секстант. Выдающийся европейский астроном Лаплас назвал Улугбека величайшим в истории астрономии наблюдателем. Его труд «Новые астрономические таблицы» считается лучшим в средневековой восточной астрономии.

В Самарканде чтут память своего великого земляка. В городе создан мемориальный музей Улугбека. Отреставрированы памятники, связанные с его именем. Проведены работы по консервации и реставрации грандиозной соборной мечети Биби-Ханым, строительство которой было начато при Тимуре и завершено Улугбеком.

Будут изданы на узбекском и русском языках труды ученого, опубликованы книги о нем советских и зарубежных авторов. Кинематографисты намерены создать художественный фильм о жизни и деятельности знаменитого самаркандца. В столице Узбекистана Ташкенте будет установлен памятник Улугбеку.

Культурный центр, по словам председателя Союза архитекторов Узбекистана Т. Кадыровой, должен стать связующим звеном между прошлым и настоящим. Его планируют разместить между современной административной частью Самарканда и площадью Регистан, где за несколько десятилетий восстановлено три медресе: Шир-Дор, Улугбека, Тилля-Кари. Согласно предварительному плану здесь будет музей, библиотека древних рукописей, школа народного творчества и школа для одаренных детей, культовые здания, спортивные и зрелищные сооружения. Космонавт генерал-майор В. Джанибеков, родившийся в Узбекистане и избранный депутатом Верховного Совета Узбекской ССР, намерен добиваться создания в Самарканде центра детско-юношеского технического творчества имени Улугбека. Туда будут приниматься школьники, имеющие склонности к математике, физике, биологии, химии, астрономии.

Создание культурного центра имени Улугбека, как надеются городские власти, даст новый импульс в поисках лучших вариантов застройки древнего города, позволит использовать международный опыт в улучшении его инфраструктуры. Самаркандцы заинтересованы также в организации совместных с иностранными фирмами предприятий, чтобы ускорить решение накопившихся социально-экономических проблем.

**Владимир МИЖИРИЦКИЙ,** (ИАН).

## АЖЫЛІ СТАРОНКІ «ПОЛАЦКАГА СШЫТКА»







**Упершыню за 16 год свайго існавання Дзяржаўны фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Харошкі» паказаў мінчанам не канцэртную праграму, а самабытны танцавальны спектакль «Па старонках «Полацкага сшытка».**

**...Размытыя абрысы замка. Нібыта на старажытнай гравюры, застылі ў розных позах яго насельнікі. Але вось загучаў рог, абвяшчаючы аб пачатку ўрачыстасці, і прывідныя цені сталі ажываць, станавіцца рэальнымі. Іх рухі грацыёзныя і велічныя... Так убачыла адну са старонак славутага «Полацкага сшытка», вернутага нам з глыбінь вякоў беларускім вучоным А. Мальдзісам, галоўны балетмайстар «Харошак», народная артыстка БССР Валянціна Гаявая. Не толькі ўбачыла і стварыла лібрэта, але і ўвасобіла ў яркія, харэаграфічныя вобразы.**

**У харэаграфіі спектакля беражліва захаваны народныя традыцыі, абрадавы і сюжэтны танец розных слаёў насельніцтва, якое жыло на землях цяперашняй Беларусі**

**НА ЗДЫМКАХ: фрагменты музычна-харэаграфічнай кампазіцыі «Па старонках «Полацкага сшытка».**

## НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

# РЭЛІКВІЯ ДУХОЎНАЙ КУЛЬТУРЫ

Культура кожнага народа непарыўна звязана з кнігай. Кніга — не толькі памяць, розум, і вопыт чалавецтва, але і неацэнны помнік духоўнай культуры народа, яго гістарычная і матэрыяльная каштоўнасць. Над стварэннем кніг нястомна працавалі многія таленавітыя майстры слова.

Асаблівую папулярнасць прынесла свету Біблія — зборнік так званых кніг іудзейскай і хрысціянскай рэлігій. Гэты старажытны пісьмовы помнік быў складзены ў далёкія ад нас часы, да яго звярталіся і звяртаюцца людзі ўсіх веравызнанняў, маёмасных класаў і ўзростаў. У розных краінах свету здаўна папулярныя кнігі свяшчэннага пісання, на якіх выхоўвалася не адно пакаленне цывілізаванага грамадства, нягледзячы на тое, што ў розныя часы ў іх былі не толькі паклоннікі, але і ворагі. Кнігі гэтага зместу сталі вядомыя на ўсходняй славяншчыне з глыбокай старажытнасці, у Беларусі яны культываваліся з часоў Кіеўскай Русі. Свайго кульмінацыйнага пункту на беларускіх землях Біблія дасягнула ў скарынаўскую эпоху, калі Скарына ажыццявіў не толькі выданне, але і спробы перакладу яе на беларускую мову.

Год юбілею Францыска Скарыны, выдатнага беларускага вучонага і першадрукара, супаў з Міжнароднай навуковай царкоўнай канферэнцыяй «Славянская Біблія — яе гісторыя і пытанні вывучэння», што адбылася 19—23 чэрвеня ў Маскве. У яе рабоце прынялі ўдзел звыш 100 вучоных-багасловаў, хрысціянскіх свяшчэннаслужыцеляў і філолагаў-славістаў з Еўропы, Амерыкі і нашай краіны. Ініцыятарам і арганізатарам канферэнцыі быў Маскоўскі Патрыярхат. Яе работа праходзіла ў аддзеле Знешніх царкоўных зносін, што размяшчаецца на тэрыторыі Свята-Данілава манастыра.

На канферэнцыі можна было ўбачыць многіх вядомых багасловаў з розных краін, якія прапаведуюць своеасаблівую філасофію — ідэю бажаства, сукупнасць царкоўных навук і ўзаемасувязь паміж імі, светам і чалавекам, вывучаюць тэарэтычныя дысцыпліны, гістарычныя, практычныя, царкоўнае права і інш.

Пасля 'набожнай літургіі ў Троіцкім сабор' Свята-Данілава манастыр  нферэнцыю ўступным слов... адкрыў архіепіскап Смаленскі і Калінінградскі Кірыла. Праграма канферэнцыі, разлічаная на пяць дзён, была насычана дакладамі і паведамленнямі розных аўтараў, прадстаўнікоў  элегацый з Балгарыі, Юга  і, Польшчы, Румыніі, Італіі, ранцыі, ФРГ, Аўстрыі, Бельгіі, Швецыі, Грэцыі, ЗША і Палесціны. Філолагаў-славістаў з нашай краіны прадстаўлялі Акадэмія навук СССР, Маскоўскі дзяржаўны універсітэт імя М. Ламаносава, Ленінградскі дзяржаўны універсітэт, навуковыя супрацоўнікі сталічных, рэспубліканскіх і абласных бібліятэк, архіваў і музеяў. Аўтар гэтага артыкула быў пасланцом Беларусі.

Канферэнцыя праходзіла не толькі як сутычка розумаў і сутыкненне поглядаў, ідэй і дум, але як узор высокага прафесіяналізму людзей рознага грамадскага становішча, якія ў свабоднай раскаванай абстаноўцы паказвалі свой навуковы патэнцыял.

Дасканалае вывучэнне славянскай Біблії і параўнанне яе з іншымі сумежнымі крыніцамі канфесіянальнай літаратуры дало магчымасць гасцям канферэнцыі зразумець, што гэта кніга адкрыла шмат нязведаных старонак духоўнай культуры чалавека, з'яўляецца ўзорам не толькі рэлігійнай, але і навуковай літаратуры. З трыбуны канферэнцыі, у кулуарах, у час адпачынку гаварылася, што маральныя прынцыпы чалавека — гэта магутны сродак, які дазваляе пераадолець людскую раз'яднанасць, духоўную адчужанасць. Яны закліканы згуртаваць людзей розных кантынентаў, кансалідаваць намаганні іх для шчаслівага сёння і перспектыўнага заўтра.

У адпаведнасці з тым, што царква ў нас пастулова, але няўхільна атрымлівае магчымасці ўдзельнічаць у грамадскім жыцці, багасловы ўносяць вялікі ўклад у захаванне помнікаў і твораў канфесіянальнай літаратуры: рэстаўрыруюць архітэктурныя збудаванні, старадаўнія рукапісы і старадрукі, выдаюць і перавыдаюць іх на аснове першакрыніц з улікам наяўных варыянтных рэдакцый. Гэта дае магчымасць філолагам-славістам даследаваць тэксты на строга навуковай аснове.

Канферэнцыя праходзіла ў знамянальны час, калі савецкая і сусветная грамадскасць святкавала 500-годдзе з дня нараджэння Скарыны. На канферэнцыю я прыехаў з Варшавы, дзе таксама прайшла Міжнародная канферэнцыя ў гонар скарынаўскага юбілею і дзе я выступіў з дакладам «Далёкія і блізкія галасы пра вялікага сына беларускага народа». Міжнародная навуковая царкоўная канферэнцыя была рэдкім аналагам у маім навуковым жыцці: тут сустрэліся прадстаўнікі розных кантынентаў, якія ўвасабляюць хрысціянскае веравызнанне, для абмеркавання гісторыі і пытанняў вывучэння славянскай Біблії. На трыбуне царкоўнай канферэнцыі я выступіў з дакладам «Узаемадзеянне Біблії Скарыны з царкоўнаславянскім і чэшскім перакладамі». І калі я ў заключэнне паведаміў прысутным, што скарынаўскі летапіс прайшоў праз стагоддзі, вытрымаў выпрабаванне часам і дажыў да нашых дзён, што ў Беларусі вывучаюцца магчымасці перакладу Біблії з царкоўнаславянскай мовы на беларускую і што, нарэшце, у нас перавыдаецца скарынаўская Біблія, то не было адбою ад гасцей з просьбай даслаць ім новае выданне гэтага твора.

На гэтым не спынілася размова пра скарынаўскі летапіс. У праграме канферэнцыі быў яшчэ даклад Ленінградскага архімандрыта Аўгусціна (Нікіціна) «Францыск Скарына і пражская Біблія», з якога вынікала, што твор унёс вялікі ўклад у скарбніцу сусветнай культуры. Аб гэтым сведчаць і рашэнні XVI сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА, дзе зацверджаны праект «Славянскія культуры», у якім прадугледжана далейшае вывучэнне старажытнай славянскай культуры і выданне на асноўных еўрапейскіх мовах серыі «Вялікія дзеячы славянскай культуры», куды ўключаны і Скарына.

Яшчэ больш уразіў мяне і прысутных на канферэнцыі даклад загадчыка Славянскага аддзела бібліятэкі Гарвардскага каледжа пры Гарвардскім універсітэце амерыканскага доктара Хью М. Олмстэд «Біблейскія тэксты ў рукапісах Максіма Грэка», у якім паведамлялася пра ролю духоўнага дзеяча і пісьменніка XVI стагоддзя Максіма Грэка як першага асветніка рускіх, яго літаратурна-пісьмовую спадчыну, тыпы тэкстаў і перакладаў. Дакладчык звярнуў увагу на змест цытат з тэкстаў свяшчэннага пісання і зрабіў нечаканы вывад: паасобныя ўрыўкі Максім Грэк у  з Біблії Скарыны. Гэта д  падставу дакладчыку заключыць, што скарынаўскія старадрукі яшчэ пры жыцці Скарыны карысталіся папулярнасцю і попытам у Маскве. Такое, па словах Хью М. Олмстэд, «маленькае навуковае адк  ;ё» стала магчымым дзяк  нашаму двухтомнаму «Слоўніку мовы Скарыны», на старонках якога дакладчык выявіў тэкстуальна-моўнае супадзенне некаторых урыўкаў скарынаўскай Біблії і ў тэкстах свяшчэннага пісання Максіма Грэка

Цікавай і разнастайнай была культурная праграма для ўдзельнікаў канферэнцыі. Гасцей чакалі сталічныя тэатры, музеі, выстаўкі, бібліятэкі і архівы, царкоўна-манастырскія саборы і іншыя помнікі архітэктуры. І, нарэшце, асноўная падзея культурнай праграмы праходзіла ў Загорску (былым Сергіевым пасадзе) — сэрцы рускай праваслаўнай царквы. Гэта адзін са старажытных рускіх гарадоў, размешчаны ў 70 кіламетрах ад Масквы. Тут захавалася Троіца-Сергіева лаўра, дзе з 1920 года паводле дэкрэта У. І. Леніна размяшчаецца Загорскі дзяржаўны гісторыка-мастацкі музей, які з 1940 года стаў запаведнікам. На яго тэрыторыі знаходзяцца Троіца-Сергіеў манастыр, Троіцкі сабор з унікальным іканастасам, пяцікупальны Успенскі сабор, трапезная, царскі палац «Чартогаў», часоўня, званіца 87 метраў у вышыню.

Гаспадарам і гасцям канферэнцыі была прадастаўлена магчымасць наведаць Загорскую Духоўную Акадэмію, пазнаёміцца з вучэбнымі аўдыторыямі і археалагічным музеем, з умовамі вучобы, быту і адпачынку студэнтаў.

Удзельнікі канферэнцыі выказалі гатоўнасць працаваць разам на ніве духоўнай культуры, збліжэння славянскіх і неславянскіх народаў незалежна ад іх палітычных і рэлігійных перакананняў. Гэта яшчэ адзін заканамерны крок да выжывання чалавецтва, захавання справядлівасці і міру на зямлі.

**Уладзімір АНІЧЭНКА,**
**доктар філалагічных навук.**

## НЕ ГОРШ, ЧЫМ У СТАЛІЦЫ

Ні ў райцэнтры, ні ў бліжэйшым буйным горадзе Палесся — Пінску вы не знойдзеце відэасалона, падобнага на той, які адкрыты пры культурна-спартыўным цэнтры калгаса «Дружба» Іванаўскага раёна.

Моладзь глядзіць тут самыя новыя кінакарціны, зможа змястоўна праводзіць у салоне вечары. Намячаюцца і тэматычныя кінавечары для калгаснікаў старога веку.

Не пашкадавала праўленне гаспадаркі сродкаў на набыццё шасці маніtoраў і двух відэамагнітафонаў. Купілі і відэакамеры, асвятляльную і гукаапаратуру — з іх дапамогай можна будзе «напісаць» гісторыю роднага калгаса.

## СЯРОД КНІГ

«І ўспомнім былыя паходы» — такую назву мае кніга выбранай паэзіі, якая нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Тут змешчаны вершы паэтаў розных нацыянальнасцей, якія прымалі ўдзел у абароне ці вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Размову з чытачом вядуць 120 паэтаў. Некаторыя з іх загінулі на тэрыторыі нашай рэспублікі.

Загінулі ў Беларусі літовец Віктарас Валайціс і чуваш Іван Віктараў, марыец Мансул Гаяз і грузін Мірза Гелавані, узбек Султан Джура і ўдмурт Піліп Кедраў... Рознае месца займаюць яны ў сваіх нацыянальных літаратурах. Розная ступень таленту вызначае творчасць кожнага з іх. А для Беларусі, для беларускага народа сыны розных народаў, прадстаўнікі розных літаратур, якія палажылі свае галовы на Дняпры і пад Мінскам, у Магілёве і ля Бабруйска, аднолькава дарагія, аднолькава блізкія.

Прачулыя, адзначаныя высокім майстэрствам радкі прысвяціў Беларусі рускі паэт Юрый Чарноў.

«І ўспомнім былыя паходы» — своеасаблівая анталогія, складзеная Міхасём Няхаем. Гэты зборнік надзённы асабліва цяпер, калі сярод першых клопатаў нашай краіны — складанасці міжнацыянальных зносін.

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# І НІЧОГА, АПРОЧ ПРАЎДЫ

Сёння ў рэспубліцы не знайсці ніводнай сферы грамадскага жыцця і дзейнасці, на якой бы адмоўна не адбіліся сталінскі і брэжнеўскі перыяды айчыннай гісторыі. Вялікую шкоду прынеслі яны і беларускаму літаратуразнаўству. І як вынік—асветніцтву.

У памяці добра захаваліся ўрокі беларускай літаратуры ў сярэдняй школе, у якой вучыўся ў 60-70-х гадах. Менавіта дзякуючы гэтаму прадмету далучыўся да роднай культуры і палюбіў яе. Багдановіч, Купала, Колас, Чорны, Мележ... Гэта яны і некаторыя іншыя выдатнейшыя майстры мастацкага слова ў юных сэрцах і душах майго пакалення ва ўмовах актыўнай дзяржаўнай палітыкі штучнай інтэрнацыяналізацыі дапамаглі ўсё ж прарасці пачуццю нацыянальнай свядомасці. І гэта нягледзячы на тое, што ад нас былі схаваны ці амаль схаваны Алесь Гарун і Максім Гарэцкі, Янка Нёманскі і Міхась Зарэцкі, іншыя паэты і празаікі.

Да таго ж, творчасць афіцыйна дазволеных літаратараў старанна і ўважліва прасейвалася праз ідэалагічнае сіта. Толькі ў студэнцкія гады давялося, напрыклад, пазнаёміцца з купалаўскай паэмай «На куццю», багдановічаўскім вершам «Пагоня», іншымі творамі, забароненымі ўладамі, якія распаўсюджваліся ў рукапісным выглядзе сярод некаторай часткі беларускай моладзі. Патрэбны партыйна-дзяржаўнаму апарату кірунак літаратурнага працэсу ўсталёўваўся пры дапамозе добра адладжанага і кантралюемага механізму літаратурна-крытычнага ўздзеяння.

Гарбачоўская перабудова нанесла адчувальны і, хацелася б верыць, смяротны ўдар па гэтай ідэалагічнай сістэме. Сёння многія малавядомыя, у тым ліку нават для спецыялістаў, творы беларускіх пісьменнікаў, узятыя, нарэшце, з кніжных спецсховішчаў, упершыню трапілі ў рукі масавага чытача.

Прынесла перабудова і малапрыемныя, скажам так, у адносінах да літаратуры адкрыцці. Праўда аб гістарычным шляху нашай Бацькаўшчыны пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года аказалася ў многім іншай, чым трактавалася раней. Нямала трагічных падзей давялося перажыць за гэты час беларускаму народу. Калектывізацыя, барацьба з «унутраным ворагам», маштабная меліярацыя — толькі частка з іх. На жаль, замест аб'ектыўнага і сумленнага слова аб гэтым, беларускія пісьменнікі нярэдка ўслаўлялі такія падзеі (з вышыні сённяшняга часу адна з драматычных старонак беларускай літаратуры).

Пераасэнсаванне практыкі сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне і рэспубліцы, ліквідацыя «белых плям» айчыннай гісторыі запатрабавалі новага прачытання амаль усёй літаратуры савецкага перыяду. З другога боку, аднаўленне ў ёй справядлівасці, безумоўна, паслужыць справе маральнага ачышчэння грамадства ад страшэнных дэфармацый мінулага.

Нават беглы позірк на гэты працэс дае падставу для цвёрдага вываду аб тым, што беларускіх літаратуразнаўцаў чакае наперадзе вялікая праца, звязаная з пераацэнкай літаратурна-мастацкіх вартасцяў многіх і многіх твораў. Вынікам такой працы павінен стаць новы падручнік «Гісторыя беларускай літаратуры».

Асаблівай увагі патрабуюць раманы, аповесці, паэмы і, вядома ж, апавяданні і вершы, якія служаць масаваму асветніцтву; яшчэ нядаўна яны разглядаліся як хрэстаматыйныя і былі змешчаны ў школьных падручніках. Падрастаючаму пакаленню, у першую чаргу, трэба сказаць праўдзівае слова пра іх.

Менавіта гэтымі клопатамі прадыктавана з'яўленне на свет кнігі вядомага беларускага літаратуразнаўцы Міхася Мушынскага «І нічога, апроч праўды: якой быць «Гісторыі беларускай літаратуры», што выйшла нядаўна ў адным з рэспубліканскіх выдавецтваў. Аўтар выказаў у ёй свае меркаванні адносна новай «Гісторыі...» — яе зместу, структуры, агульнай канцэпцыі літаратурнага працэсу.

На думку М. Мушынскага, у аснову даследчыцкай працы абавязкова павінна быць пакладзена практычная рэалізацыя наступных дзвюх ідэй. Па-першае, аналіз літаратурных твораў трэба весці з пазіцый іх гуманістычнай скіраванасці, адлюстравання агульначалавечых каштоўнасцяў. Па-другое, з пазіцый праяўлення літаратурай свайго нацыянальнага аблічча. Адзначаецца, што такі падыход у беларускім літаратуразнаўстве, калі б, напрыклад, даследаваліся акалічнасці, якія скіроўвалі беларускую літаратуру на пазанацыянальны шлях, у мінулым практычна не ўжываўся.

Аўтар кнігі прапануе чытачу новую схему перыядызацыі беларускай савецкай літаратуры ў наступным выглядзе: першы перыяд — 1917-1932 гады, другі — 1933-1955, трэці—1956 і да нашага часу. У адрозненне ад існуючай сёння схемы, жорстка прывязанай да этапаў грамадзянскай гісторыі, ён прытрымліваецца новых крытэрыяў перыядызацыі, якія маюць дачыненне ў асноўным толькі да літаратуры.

Што ж уяўляе кожны з адзначаных этапаў? У 1917 — 1932 гадах беларуская літаратура развіваецца на традыцыях рэалізму, народнасці, мае выразна акрэслены нацыянальны твар. Другі перыяд характарызуецца яе адступленнем ад рэалізму і народнасці, разбурэннем нацыянальных традыцый. І нарэшце, трэці перыяд адметны вялікімі супярэчнасцямі літаратурнага працэсу, што, безумоўна, звязана з грамадзянскай гісторыяй: у гэты час Савецкую дзяржаву ўзначальваюць такія розныя палітыкі, як Хрушчоў, Брэжнеў, Андропаў, Чарненка, Гарбачоў...

Міхась Мушынскі нямала старонак сваёй кнігі прысвяціў прафесіянальнай размове пра канкрэтныя паэтычныя і празаічныя творы, канкрэтных пісьменнікаў. Заўтрашні дзень беларускай літаратуры немагчыма больш уявіць без творчай спадчыны класіка нашага нацыянальнага слоўнага мастацтва Максіма Гарэцкага, другога выдатнейшага і таксама трагічнага лёсу празаіка Міхася Зарэцкага... Пачэснае месца ў новай «Гісторыі...» павінна заняць творчасць многіх іншых таленавітых беларускіх літаратараў 20-30-гадоў, абвінавачаных і загубленых сталінскім рэжымам за так званую нацдэмаўшчыну.

Аб'ектыўнасць падыходу, паслядоўны гістарызм, адзначае аўтар разглядаемай намі кнігі, павінны стаць вызначальнымі прынцыпамі і пры аналізе пасляваенных этапаў развіцця беларускай літаратуры. Спрошчанасць агульнай панарамы літаратурнага працэсу гэтых гадоў зусім відавочная. Між тым, менавіта пасляваенны час падарыў нашай Бацькаўшчыне такіх «зорак» прыгожага пісьменства сусветнага ўзроўню, як Іван Мележ, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч. Гэтыя літаратары, у першую чаргу, рыхтавалі духоўную глебу для цяперашняй перабудовы. Вось чаму, падсумоўваючы сказанае, хочацца спадзявацца, што новая «Гісторыя беларускай літаратуры» стане даследаваннем, якое ўпіша змястоўную старонку ў нашу нацыянальную культуру.

**Міхась СТЭЛЬМАК.**



Усесаюзныя курсы вышэйшага выканаўчага майстэрства «Акадэмія старадаўняй музыкі» працуюць у Мінску. У гэтым годзе яны праводзяцца ў рамках святкавання 500-годдзя Францыска Скарыны. Па запрашэнню Музычнага таварыства БССР для ўдасканалення выканальніцкага майстэрства маладых арганістаў нашай краіны прыехаў з Гамбурга музычны дырэктар галоўнай царквы святога Пятра прафесар Эрнст Ульрых фон Камеке — прызнаны знаўца і інтэрпрэтатар І.-С. Баха.

НА ЗДЫМКУ: Эрнст Ульрых фон КАМЕКЕ з маладымі арганістамі.

Фота У. ВІТЧАНКІ.

## ЖЫВЕ ЛЮДСКАЯ ПАМЯЦЬ

У Крычаве завяршыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 250-годдзю паўстання мясцовых сялян, 300-годдзю з дня нараджэння яго кіраўніка Васіля Вашчылы і 47-й гадавіне вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Галоўнае мерапрыемства свята — літаратурна-музычны вечар у Крычаўскім Доме культуры — адкрыў прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна Д. Бугаёў.

З фрагментам новай п'есы «Следчая справа Васіля Вашчылы» Івана Чыгрынава нас знаёмяць артысты тэатра гістарычнай драмы і камедыі, створанага нядаўна пры Беларускім фондзе культуры.

А потым на сцэну выходзіць аўтар. Ды не адзін, а з вядомым краязнаўцам, цяпер пенсіянерам, а ў мінулым дырэктарам Крычаўскага раённага краязнаўчага музея М. Мельнікавым. Пасля вайны Мельнікаў першым вярнуўся да гэтай яркай гістарычнай асобы, далучыў пісьменніка да вывучэння матэрыяла пра Вашчылу і крычаўскую зямлю.

*З НОВЫХ ВЕРШАЎ*

**Максім ТАНК**

***

Калісьці,
Легкадумна заглыбіўшыся
У лабірынце сваіх
Пошукаў Праўды,
Узяць забыўся
Нітку Арыядны.

Цяпер не ведаю,
Ці ўдасца,
Калі нат і адшукаю
Гэту Праўду,
Мне вынесці яе
На свет.

**Ірына БАГДАНОВІЧ**

***

Адсутнасць чалавечай цеплыні
Чым замяніць,
Каб адрасталі крылы!
Каб затрымаць прышэсце дзён панылых,

На дрэве ліст —
Апошні ліст трымціць.
Напружаная ўздымецца далонь
І адхіне з ілба рудую пасму.
Як неашчадна
Спажывалі час мы
І распалілі ўсё ж пад ім агонь.
Ціск у Зямлі падскочыў.
Да пары
Касмічны рытм спыняе шэпат:
«Мілы...»

Вясна.
Здзіўленне:
Дрэвы не астылі,
Яшчэ ёсць цеплыня зямной кары.

***

Вось мы ідзём, як блізкія чужыя,
Як на святло начныя матылі,
Ляцім на словы, акурат не тыя,
Дзеля якіх мы ў гэты свет прыйшлі.

Аб нечым дробным золкая размова,
Якую кожны рад бы быў спыніць.
А зор над намі! Сцішваецца слова...
Вандруе ноч на вараным кані.
І толькі ёсць адзінае жаданне:
Маўчаць і с[illegible]ць, слухаць і маўчаць,
Каб зразумець, што кожны з нас абраннік
На тым шляху, што двойчы не пачаць.

***

Яшчэ калі мне толькі сніўся ты,
Я верыла, што там цябе сустрэну,
Дзе сталасць і юнацтва — на мяжы.

Яшчэ калі мне толькі сніўся ты,
Я ведала, што ты ідзеш насустрач
Да скрыжавання нашых пуцявін.

Таму такім даўно знаёмым, блізкім,
Нібы пасля нядоўгага расстання,
Ты здаўся мне.

### КЛЮЧЫ

Зачынілі ад нас нашы скарбы,
Ты ж маўчы, мой сучаснік, маўчы!
Прызвычайся да шэрае фарбы...
Дзе ад спадчыны нашай ключы!

Дзе крывіцкія даўнія кнігі,
Палімпсестаў пергамент стары!
На падмурку царквы забулдыгі
Прапіваюць астатні алтын.

Пад святымі мурамі сабора
Чорнай пашчаю зеўрыць метро.
І Няміга ў каменным уборы —
У прабірку сабраная кроў.

Сціхнуць вуліц каменных каньёны,
Можна будзе пачуць уначы:
Мой нашчадак гаворыць са мною —
Дзе ад спадчыны нашай ключы!

Што яму адкажу па сумленні!
Дзе ад спадчыны нашай ключы!
І чаму нашай памяці звенні
Расцягалі усцяж крумкачы!

Што яму адкажу па сумленні!
Гук на ліры які закрану!
Прадракалі народу знікненне,
Калыхалі над лёсам труну.

Паміж кветак ланцуг уплыталі,
Каб не ўгледзеў ён сам свой прыгон.
І легенды аб шчасці складалі
На падмурку скрываўленых дзён.

Усё чакалі, пакуль ён зліецца,
Як рачулка з вялікай ракой...
Быццам нечае тайнае месца
Ён займаў на чужы неспакой.

Дык ці будзем у славе і ў хвале!
Мовай роднаю ці загучым!
Ля Нямігі ці справім купалле!
І, як кветку, ці знойдзем ключы!

### КУПАЛА, 1918 ГОД

Наросхрыст расчынены дзверы,
Сусвет выцінае імшу.
Слабее душа ад нявер'я,
Бязмоўнасць не выйсце. Пішу.

Які ты ў Смаленску малеча,
Дняпро, немаўлятка зусім!
А колькі ты скарг чалавечых
Стагоддзямі ў мора насіў!

Яны асядалі ў парогах —
Пясчынкі пакуты і крыўд.
У свеце пануе знямога,
І нехта смяецца наўзрыд.

Пазней наплятуць і асудзяць:
Не змог зразумець, не пранік...
Ён ведаў, народзяцца людзі,
Каб стаць чысцінёй чысціні.

Хваробны сусвет, непрытомнасць,
Дарадцаў насы, што ні крок.
Няспраўджанай мары надломнасць,
І верша пакутны радок.

Заплюшчаны вочы ў народа.
Ізноў — толькі прывід вясны.
Дый вера за ўсё ўзнагарода —
Найлепшыя спраўдзяцца сны.

## НАШЫ ЗА МЯЖОЙ

# «РАБОТЫ ХАПАЕ»

**Наш зямляк, алімпійскі чэмпіён па боксу, віцябчанін Вячаслаў ЯНОЎСКІ вырашыў стаць прафесіянальным баксёрам і цяпер жыве ў Токіо. Журналіст В. ФІЛІПЧЫК гутарыць са славутым спартсменам.**

*— І вось, пытанне першае. Як жывецца Яноўскаму на прафесіянальным рынгу?*

— На мой погляд, прафесіянальны спорт — гэта поўная аддача самога чалавека выбранай справе, асабліва наш від спорту. Прыходзіцца перастройваць свой арганізм на большыя нагрузкі. Тут нельга расслабляцца ні на мінуту, бо на рынг выходзіць такі ж моцны чалавек, і тут праяўляюцца твае адносіны да справы.

*— Прабачце за меркантыльнасць, а як аплачваецца ваша праца?*

— Я ніколі не ставіў на першае месца заработак, спачатку заўсёды была работа. Пасля перамогі на Алімпійскіх гульнях мне было прыемна, калі віншавалі не толькі блізкія і сябры, але і зусім незнаёмыя людзі. Галоўнае, каб не закружылася галава ад віншаванняў. І грошай.

*— Складваецца такое ўражанне, што ў вас няма праблем?*

— Праблем заўсёды хапае, але гэта не самае страшнае. Важна, што я з імі спраўляюся.

*— Напэўна, дапамагае сям'я?*

— Так. Нас чацвёра: я, жонка Галіна і два сыны — Сяргей і Жэня. Я заўсёды вельмі моцна сумаваў без іх, але цяпер мы ўсе разам, і я магу спакойна трэніравацца.

*— Хацелі б вы з жонкай, каб вашы дзеці сталі, скажам, баксёрамі?*

— Хачу бачыць сваіх дзяцей проста добрымі людзьмі. Ну а калі пашанцуе ў спорце, хопіць цярпення і характару, то, вядома, пажадаю ім удачы.

*— Як складваліся вашы першыя паядынкі?*

— Першы бой на прафесіянальным рынгу — гэта, можна сказаць, нешта новае, хаця і не зусім. Бокс аматарскі і прафесіянальны амаль адно і тое ж. Але ў прафесіянальным больш раундаў, іх 12 у адным баі. І я павінен падвесці сябе да вышэйшай кропкі спартыўнай формы на гэты канкрэтны бой. У аматарскім жа настройваўся на доўгі турнір. Другое — у прафесіянальным боксе я загадзя ведаю свайго саперніка, вывучаю яго стыль і рыхтуюся да сустрэчы менавіта з ім.

Свой першы бой выйграў накаўтам у чацвёртым раундзе. Як гавораць, цяжкі толькі пачатак. У другім адолеў карэйца па ачках. Мы баксіравалі шэсць раундаў. У трэцім паядынку атрымаў перамогу над паўднёвакарэйскім баксёрам. Перамог і ў чацвёртым — бразільскага атлета. Цяпер рыхтуюся да пятага выхаду. Раніцай бег — 10—12 кіламетраў, 40 мінут працы на дарозе, 30 мінут «пампавання» і вячэрняя трэніроўка — тры гадзіны. Так што працы хапае.

Японія — краіна цікавая, са своеасабліваї ...льтурай, але ўсё ж вельм... мую па дому. Карыстаючыся нагодай, перадаю прывітанне ўсім сябрам, сваім балельшчыкам.

## ПАД ВЕТРАЗЯМІ СЯБРОЎСТВА





**Запрашэнне прыйшло з англійскага горада Брунела. Групе беларускіх яхтсменаў — студэнтаў БДУ імя У. І. Леніна, Беларускага політэхнічнага, тэхналагічнага інстытутаў, інстытута фізкультуры прапанавалі прыняць удзел у спартыўнай праграме «Галоснасць і спорт». Ініцыятарамі сустрэчы сталі Расел Флемінг, старшы інструктар Каралеўскай асацыяцыі яхценнага спорту, і маладзёжны цэнтр пры Брытанскім савеце.**

**Студэнцкі парусны спорт Вялікабрытаніі. Які ён! Чым адрозніваецца ад нашага! Якія ўмовы для заняткаў яхтамі! Адказаць на гэтыя пытанні беларускім яхтсменам дапамаглі гонкі, праведзеныя яхт-клубам «Датчэт», сувязі з брунелскімі студэнтамі, сустрэчы за круглым сталом і сумесныя спартыўныя мерапрыемствы. Савецкім студэнтам было цікава даведацца, што пры буйных універсітэтах Вялікабрытаніі існуюць парусныя студэнцкія клубы. Каб стаць членам клуба, неабходна ўнесці першы ўзнос — трыццаць фунтаў. Гэта палавіна кошту добрага плеера, і таму, хто ўступае, даводзіцца выбіраць.**

**Аб'ядноўваючыся ў спартыўныя клубы, англійскім студэнтам лягчэй арандаваць яхт-клубы і судны для трэніровак.**

**Застаецца дадаць, што ў Англіі адна яхта прыпадае на сорак душ насельніцтва. А ў нас! На жаль, на многія-многія тысячы...**

**НА ЗДЫМКАХ: «Лазер-рэгата» на дыстанцыі; удзельнікам сустрэчы была дадзена магчымасць наведаць славуты музей мадам Цюсо.**

**Фота Я. БЫКОЎСКАГА.**

## ВЫКОНВАЕМ ВАШЫ ПГ... ЪББЫ

# ЯНЫ БЫЛІ ПЕРШЫМІ

**Паважаная рэдакцыя!**

**Мне не пашчасціла выйсці ў вялікі спорт. Перашкодзіла хвароба. Але заўжды з пільнай увагай і хваляваннем сачу за выступленнем беларускіх спартсменаў, маіх землякоў. Перавагу аддаю гімнастыцы, бо некалі сама спрабавала сябе менавіта ў гэтым відзе спорту. Пачынала ў гады, калі ярка гарэлі «зоркі» Алены Валчэцкай, пазней — Тамары Лазаковіч. Яны былі ў той час маімі кумірамі. На жаль, гэтыя спартсменкі хутка закончылі свае выступленні. Аб іх мне нічога не вядома. Ці не маглі б вы хоць што-небудзь расказаць аб славутых беларускіх гімнастках! Буду вельмі ўдзячная атрымаць звесткі праз вашу газету.**

**З павагай**

**І. ДЗЯНІСКЕВІЧ.**

ЗША.

У пачатку шасцідзесятых гадоў на сусветным гімнастычным памосце непадзельна ўладарыла каманда савецкіх спартсменак. Ды і ў асабістым заліку з Ларысай Латынінай, Палінай Астахавай, Тамарай Люхінай... магла ў нейкай ступені канкурыраваць на спаборніцтвах толькі, можа,чэшка Вера Часлаўска.

І ў гэты ж час пайшоў слых, што ў Гродне падрастае вельмі таленавітая дзяўчынка з задаткамі вялікай гімнасткі. Размова ішла аб Алене Валчэцкай.

Першым здольнасці дзяўчынкі заўважыў выкладчык фізкультуры сярэдняй школы № 8 Гродна Мікалай Траццяк яшчэ дзесьці ў пятым класе. Але тут, як кажуць, быў не яго профіль. І таму Мікалай Фёдаравіч параіў Аленцы звярнуцца да трэнера па гімнастыцы Рэнальда Кныша.

Неяк Рэнальд Іванавіч даваў інтэрв'ю газеце «Праўда». І там ёсць такія словы:

— Няхай вам не здасца дзіўным, але сваёй Вучаніцай з вялікай літары я лічу не Корбут, а Валчэцкую. Яна апярэдзіла гімнастыку на некалькі гадоў. У яе праграме было многа навізны. Больш, чым потым у Корбут. Але тады быў іншы стыль, іншыя адносіны да гімнастыкі. Пераважаў кансерватызм. Вось ёй (А. Валчэцкай.— Я. І.) і не далі ходу...»

Што яшчэ не дагаварыў трэнер? Тое, што з Вольгай Корбут працаваць было яму вельмі складана: спартсменка была непрадказальнай — то бліскуча выступіць на спаборніцтвах, то сарвецца на простым элеменце, то раптам адмовіцца выконваць на трэніроўцы ўстаноўку трэнера. Адным словам, хапала ў Вольгі капрызаў.

Іншая справа — Алена. Да трэніровак ставілася вельмі старанна. Кожны элемент адпрацоўвала з поўнай сур'ёзнасцю. Яна і Рэнальд Іванавіч сталі нібы адным цэлым. Ці не таму поспех прыйшоў не раптам, а пасля напружаных трэніровак. Не заўжды суддзі на спаборніцтвах выстаўлялі Валчэцкай высокія балы: новыя, вельмі складаныя элементы не адразу прыжываліся ў гімнастыцы. Вось тут і той кансерватызм, аб якім казаў Р. Кныш. Але хутка аб здольнай спартсменцы загаварылі ўсе. Хаця з-за прадузятасці трэнеры зборнай не спяшаліся ўключаць Алену ў зборную краіны.

— У той час,— успамінаў некалі выдатны беларускі гімнаст Мікалай Мілігула,—трапіць у зборную СССР было значна цяжэй, чым у касманаўты. Босы ад спорту стараліся не заўважаць дараванні з перыферыі. Гродна ж тады якраз і адносілі да перыферыі.

Спаборніцтвы за спаборніцтвамі. На памостах Францыі і Польшчы, Швецыі і Балгарыі... Напярэдадні Алімпійскіх гульняў у Токіо Алена рыхтавалася да апошніх адборачных спаборніцтваў, якія павінны былі адбыцца ў Маскве. І трэнер, і спартсменка добра разумелі, што гэта апошні шанц трапіць у зборную.

Не будзем спыняцца на эпізодах тых спаборніцтваў. Адзначым толькі, што многія «зоркі» не вытрымалі барацьбы з гэтай спартсменкай з Беларусі.

У складзе зборнай краіны на Гульнях Алена першай сярод беларускіх гімнастак заваявала вышэйшую ўзнагароду — залаты медаль. У мнагабор'і ж выступіла не вельмі ўдала: восьмае месца.

— Як тады не хапала майго трэнера. Маральная падтрымка Рэнальда Іванавіча дапамагла б заняць больш высокае месца. Толькі аб ім забылі. У Токіо Р. Кныш паехаў турыстам.

Хутка забылі і саму Алену. Праз год пасля Алімпіяды Валчэцкая стала чэмпіёнкай СССР. Трэнер і спартсменка намячалі новыя планы. І раптам — крушэнне надзей: на спаборніцтвах зламала нагу. Так закончылася спартыўная кар'ера выдатнай беларускай гімнасткі. Усім савецкім алімпійскім чэмпіёнам прысвоена званне «Заслужаны майстар спорту СССР». Алена ж проста — «Майстар ...ту СССР». Хіба ж гэта ...вядліва?..

Зараз яна працуе трэнерам у Гродзенскім тэхнікуме фізкультуры.

Яшчэ ў зеніце славы была Алена Валчэцкая, а ў Беларусі падрасталі новыя таленты. Цяпер ужо прыйшоў час трэнера з Віцебска Вікенція Дзмітрыева. «Цвёрдым» кандыдатам на паездку ў Мехіка на Алімпійскія гульні стала Ларыса Петрык.

— Не сумняваўся я, — расказваў Вікенцій Дзмітрыевіч, — што яшчэ адна мая вучаніца, Лазаковіч, пападзе ў зборную краіны.

Перад Гульнямі Тамара перамагла на першынстве СССР. Але вось атрымліваю строгае прадпісанне зверху: пасылаць у Мехіка адну Петрык.

З цяжкасцю трэнер суцешыў чатырнаццацігадовую спартсменку. Удалося пераканаць Тамару не кідаць гімнастыку, што яе зорны час наперадзе. І гэты час надышоў.

Асабліва шчаслівым аказаўся для яе 1971-шы год. Яна стала чэмпіёнкай Еўропы і V летняй Спартакіяды народаў СССР. А на першынстве краіны не ўступіла самой Людміле Турышчавай. Цяпер ужо нішто і ніхто не здолеў перашкодзіць Лазаковіч паехаць у Мюнхен на Алімпіяду. Беларуская спартсменка прывезла з ФРГ адзін залаты, адзін сярэбраны і два бронзавыя медалі.

Імклівы ўзлёт да спартыўнай славы і... канец. Раптам яе, яшчэ такую маладую, мы больш не ўбачылі на гімнастычным памосце. Што здарылася? Вось як тлумачыць сама Лазаковіч:

— На мне ж, як гаворыцца, няма жывога месца: ногі, пазваночнік, другое, трэцяе... Усё не на месцы, усё пашкоджана. З вялікага спорту мала хто выходзіць здаровым.

Далейшы лёс вядомай спартсменкі склаўся няўдала. Яна не знайшла сабе добрага занятку.

І нібы папрок трэнерам, спартыўнаму кіраўніцтву краіны прагучалі яе словы, якія яна сказала аднаму са спартыўных журналістаў:

— Спартсмены мала прыстасаваны да жыцця. Не прызвычаіліся самі займацца сваімі праблемамі, іх трэба накіроўваць. Ад нас жа цяпер проста адмахваюцца: няма калі, пачакайце, не да вас. Спачатку ўсё возьмуць, а потым зусім забудуць. Хіба можна пражыць на 30 рублёў, якія я атрымліваю па інваліднасці.

На жаль, прыклад з Лазаковіч у нашай краіне тыповы. Многія вядомыя спартсмены абдзелены і ўвагай, і дабротамі.

**Яўген ІВАНОЎ.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 1318